# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 16 (1562) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 20 КРАСАВІКА 1986 г. ЦАНА 10 зл.



У Мінску, у доміку-музеі, у якім 13-15 сакавіка 1898 г. адбыўся Першы з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі — папярэдніцы Камуністычнай Партыі Савецкага Саюза, — заўсёды людна. Наведваюць яго экскурсіі з усяго СССР і розных краін свету. Фота з архіва.

## ПАМЯЦЬ І ДРУЖБА

На Гайнаўшчыне заўсёды была жывой ідэя дружбы з Краінай Саветаў. Сама Гайнаўка як мястэчка з багатымі рэвалюцыйнымі традыцыямі мае пралетарскае аблічча.

Летам 1944 года, у першыя дні пасля вызвалення з-пад улады нямецкіх захопнікаў 65-ай арміяй генерала Паўла Батава, тут сярод мясцовых жыхароў паўсталі гурткі дружбы з салдатамі Савецкай Арміі. І калі ў лістападзе 1945 года ў краіне паўстала Таварыства польска-савецкай дружбы, дык на Гайнаўшчыне ўжо больш года дзейнічалі яго гурткі. На працягу сарака гадоў ТППР вырасла ў масавую арганізацыю.

Гмінна-гарадскі аддзел ТППР у Гайнаўцы — гэта адзін з найбольшых і актыўнейшых у ваяводстве і ў цэлай краіне. Вядзецца тут дзейнасць у многіх напрамках. Таму цікава было пагутарыць са старшынёй праўлення гмінна-гарадскога аддзела ТППР у Гайнаўцы — таварышам Мечыславам Охнё. З'яўляецца ён сакратаром па справах прапаганды ў гарадскім камітэце ПАРП, а таксама выконвае шмат іншых адказных абавязкаў. З'яўляецца, між іншым, намеснікам старшыні гарадской рады ПРОН, намеснікам прэзаса спартыўнага клуба „Пушча" членам праўлення Таварыства прыяцеляў Гайнаўкі, членам гарадскога праўлення Таварыства распаўсюджвання свецкай культуры.

**Янка Мордань:** Я чуў, што вы самі не будзеце родам з Гайнаўшчыны. Але ў апошнія гады добра вядомы як чалавек, вельмі актыўны ў грамадска-палітычным жыцці гэтага асяроддзя, а перш за ўсё як ахвярны пашыральнік ідэі дружбы з СССР.

**Мечыслаў Охнё:** У 1977 годзе прыехаў я ў Гайнаўку працаваць і з таго часу тут жыву. У маі 1981 г. стаў працаваць у гарадскім камітэце партыі. У пачатку снежня быў выбраны старшынёй праўлення аддзела ТППР. Мне заўсёды былі блізкія ідэі дружбы паміж савецкім і польскім народамі. У Гайнаўцы сустрэў я вялікае заангажаванне людзей у грамадскую дзейнасць. Адчуваецца адданасць мясцовых жыхароў сацыялістычнаму ладу і замілаванне да сваёй зямлі і да Народнай Айчыны. Даводзілася мне працаваць у розных гарадах краіны, аднак нідзе — і гавару гэта з упэўненасцю — не заўважыў я большай адданасці гэтай справе ў грамадстве, як тут.

**Я. М.:** А ці не перашкаджае факт, што ў Гайнаўцы жыве рознае ў нацыянальных адносінах насельніцтва?

**М. О.:** Абсалютна не. Тут няма супярэчнасцей у сужыцці розных нацыянальнасцей. Узаемаразуменне стварае добрую атмасферу для грамадска-культурнай дзейнасці.

**Я. М.:** Скажыце, як выглядала дзейнасць ТППР у Гайнаўцы ў 1981 годзе, калі краіна перажывала цяжкія часы?

**М. О.:** Хаця 1981 год быў цяжкім для нашай Айчыны, але ў нас усё было па-іншаму. Людзі не выракаліся дружбы з Савецкім Саюзам. Добра разумелі сітуацыю. За прыклад можам узяць паказчыкі. У 1981 годзе ў нашым аддзеле было 40 гурткоў і звыш 4 тысяч членаў. Надалей працягвалася актыўная іх дзейнасць. Ад таго часу да сённяшняга дня нашы рады пастаянна павялічваюцца. Актыў

(Працяг на стар. 2)

## ЗА МІРНАЕ НЕБА

Бягучы год Арганізацыя Аб'яднаных Нацый аб'явіла Міжнародным годам міру. Сёння над светам павісла пагроза ядзернай вайны. Сілы імперыялізму на чале са Злучанымі Штатамі Амерыкі імкнуцца разбурыць канструкцыю мірнага суіснавання і стратэгічна-ваеннай раўнавагі, намагаюцца здабыць мілітарную перавагу над Савецкім Саюзам і краінамі Варшаўскага дагавору.

Аб гэтых справах шырока гаварылася 19 сакавіка 1986 года на супольным пленуме Ваяводскай рады ПРОН і Ваяводскага камітэта абаронцаў міру, які быў прысвечаны тэме: „Грамадства Беласточчыны ў рэалізацыі ідэі Міжнароднага года міру". На гэтую тэму з дакладам выступіў старшыня Ваяводскага камітэта абаронцаў міру прафесар Медыцынскай акадэміі Васіль Чэчуга. У дакладзе гаварылася: „Ужо накоплена толькі зброі, у тым ліку ядзерных бомбаў і ракет, што хапіла б іх, каб шмат разоў знішчыць жыццё на Зямлі. Нягледзячы на гэта, вашынгтонская адміністрацыя ў пагоні за ваеннай перавагай гаворыць, што быццам Злучаныя Штаты Амерыкі недазброеныя, а планы „зоркавых войнаў" прадстаўляюць яны як абаронную стратэгічную ініцыятыву. Цяпер рабром стаіць пытанне: космас для міру ці для вайны? Цяпер лёс чалавецтва залежыць ад таго, ці ўдасца затрымаць гонку ўзбраенняў, ці перанясецца яна ў Космас..."

— Савецкі Саюз і сацыялістычныя краіны актыўна змагаюцца за мір. На працягу больш 30 гадоў выступілі яны з больш як са ста рознага роду ініцыятывамі, — падкрэсліў у сваім выступленні І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП Уладзімір Каладзеюк.

Усе прамоўцы звярталі ўвагу на значэнне шматлікіх мерапрыемстваў, накіраваных на пашырэнне ідэі абароны міру. А таксама звярталі ўвагу на неабходнасць актыўнага дзеяння ў імя добрых міжлюдскіх адносін паміж каталіцкім і праваслаўным грамадствам Беласточчыны. Гэтыя пытанні закранулі Галіна Кракуўка з Драгічына і Галіна Раманчук з Беластока.

З увагай слухалі прысутныя прамовы прадстаўніка праваслаўнай епархіі а. Канстанціна Бандарука, а таксама старшыні Беластоцкай акругі Хрысціянскага грамадскага аб'яднання Яўгена Чыквіна.

(Працяг на стар. 6)

## Замалеўкі з жыцця

### ШТО І КАМУ СУДЖАНА

— Не ведаю, як гэта ёсць на свеце, — сумна гаварыла бабка Манька. — лё ужо такі, ці як? Во, напрыклад, я. З багатага я роду, бо яшчэ і пасля вайны, калі хто меў шмат зямлі, дык багатым лічыўся. Ад сватоў адбою не было мне, то той ідзе, то другі. Ой, нераз думала я калі яны мне спакойна жыць дадуць? Магла я і блізка выйсці замуж, і за маладзейшага за сябе, але чамусьці не выходзіла. Можа, і ты ведаеш Янеля з Тарнаполя. Ён некалькі разоў пытаў мяне, ці хачу быць яго жонкаю; прыходзіў таксама і яго бацька. Сватаўся да мяне і адзін хлопец з Нараўкі, вельмі прыгожы такі, зграбны. Спадабаўся ён мне адразу, і за яго хацела пайсці я але бацькі перашкодзілі. Не ведаю, чаму яны так блага ўчынілі, бо яшчэ і гасціну пры гэтым зрабілі яны, сваякоў наспрашалі, бацькоў хрышчоных. Памятаю я тое, бы сёння! Сядзім мы тады за сталом і гутарым. Нехта кажа што надта прыгожы хлопец сватаецца да вашае Манькі, а бацька на тое як не засмяецца, як не скажа: „Такіх хлопцаў, во, як гэты, я ад Масквы да Берліна ракам павыстаўляю!“ Мне зрабілася ад таго вельмі брыдка, але мой любы не звярнуў аніякае ўвагі на тыя бацькавы словы. „Будзем неяк жыць — гаварыў ён мне, — я працую ляснічым, грошай стае“. „Ведаеш, — адказваю я яму, — калі б нас было дачок пяць, то я ўцякла б з табою. А так, бацькоў шкадую...“

Найбольшая была мне шкода, што гэты хлапец не можа ажаніцца са мною! Назаўтра я плачу наўзрыд, а мама і тата стукаюць кулакамі ў стол і крычаць: „Калі ты за яго пойдзеш, то мы цябе выракамся! У яго ж нават сваёй хаты няма! Ён у жыдоўскай жыве. У яго лёгкія прастрэленыя: памрэ ён, і як тады жыць будзеш?!“

Плакала я, плакала, але мусіла ўступіцца. А цяперка во як: той, што чырванеў, бы рыжык, памёр, а той, што хадзіў белым на твары, жыве! Я сустракаюся з ім, у Нараўцы, гаворым, а ўва мне жаль і жаль. Сватаюцца яшчэ да мяне ўдаўцы і так, мужчыны, але я ўжо нікога не хачу. Хоць, праўда, сумна адною жыць ды адкуль жа мне ведаць, які можа быць другі які мужчына? ...Мой добры быў, не піў, не біў, з хаты не выганяў. Ужо чатыры гады будзе, як у зямлі ён, бедненькі, ляжыць.

Я ўжо сабе цяпер нічога раніцай не гатую. Толькі на абед і на вячэру. Калі адзін чалавек жыве, то апетыту няма. Мае дзеці ўсё ўспамінаюць, што калісьці я смачна гатавала. У мяне заўсёды была гарачая ежа, якая б ні была пара года. Мусіць, самой давядзецца жыццё сваё дажываць.

Сын і дачка жывуць блізка. Не так мне і блага. Толькі другая дачка — аж у Беластоку.

— Напэўна часта яны наведваюць вас? — кажу я ёй.

— Ой, як гэта табе сказаць? — усміхаецца бабка Маня. — У іх свае беды, у іх гаспадаркі. Свае сем'і. Каб так часта яны да мяне заходзілі, дык не скажу. ...Дам я табе гасцінца малому твайму, — гаворачы гэта, бабуся Манька пайшла на кухню і вынесла адтуль прыгожых яблык.

Я падзякавала ёй за яблыкі і пачала збірацца ісці.

Хутка пайшла на аўтобусны прыпынак. Не паспела я гэта дайсці да таго прыпынка, калі здалёку паказаўся і аўтобус.

Сеўшы ў той аўтобус, падумалася мне: чалавек кіруе сваім лёсам, ці гэта лёс кіруе чалавекам?

**Аўрора**

## Весткі з Беларусі

### КАРЫСНЫ ВОПЫТ

Па запрашэнню савецкіх прафсаюзаў СССР наведала дэлегацыя польскіх прафсаюзных работнікаў на чале з намеснікам старшыні Усяпольскага пагаднення прафсаюзаў Збігневам Чэрпкам.

Польскія госці пабывалі і ў Беларусі. Яны былі прыняты ў Белсаўпрофе, мелі гутарку з сакратаром Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Л. Чагінай. Члены дэлегацыі наведалі Мінскі трактарны завод, дзе агледзелі зборачную і доследную вытворчасць, музей трактароў, пазнаёміліся з работай прафсаюзнага камітэта, Палаца культуры. Яны мелі таксама сустрэчы на Мінскім камвольным камбінаце і прафсаюзных курсах Белсаўпрофа.

### НА БЕРАЗЕ ПРЫПЯЦІ

110 год споўнілася Мазырскаму вадамернаму пасту, адкрытаму ў 1876 годзе. Два разы ў суткі яго супрацоўнікі вымяраюць на Прыпяці ўзровень і тэмпературу вады, выконваюць іншыя кантрольныя работы. Атрыманыя даныя аператыўна паступаюць у гідралагічную службу краіны. На Гомельшчыне такіх пастоў — 20.

Служба назірання цікавіцца „здароўем“ Прыпяці. Разам з іншымі хімічнымі лабараторыямі гідролагі некалькі разоў у год робяць глыбокі аналіз стану вады. Прыпяць, па гэтых даных, з'яўляецца самай чыстай ракой у Еўропе.

### ДЭПУТАЦКАЯ ПРАГРАМА

Другая чарга шматпрофільнай клінічнай бальніцы здадзена ў эксплуатацыю ў буйным мікрараёне Мінска — Чыжоўцы. У дзесяці аддзяленнях на 700 ложкаў — сучаснае абсталяванне, выраблене ў краінах СЭУ, а таксама Фінляндыі, Югаславіі і Японіі.

Бальніца — адно са звенняў распрацаванай па ініцыятыве дэпутатаў гарадскога Савета комплекснай праграмы „Здароўе“. Так, летась пабудаваны анкалагічны дыспансер жаночая кансультацыя, дзве паліклінікі. Мэта праграмы — прафілактыка захворванняў стварэнне ўмоў для рэгулярных заняткаў фізкультурай і спортам.

### ЗМЯНІЛІ ТЭХНАЛОГІЮ

Стандартны папяровы мяшок для ўгнаенняў ці сухіх кармоў стаў лягчэйшы на 20 грамаў і пры гэтым захаваў ранейшую трываласць. Здавалася б, лічба вельмі нязначная, але толькі на адным цэлюлозна-папяровым камбінаце, дзе пачата вытворчасць новага сорту паперы па распрацоўцы навуковага супрацоўніка Беларускага тэхналагічнага інстытута Анатоля Осіпава, разлічваюць атрымаць гадавы эканамічны эфект 113 тысяч рублёў.

Нядаўні выпускнік інстытута прапанаваў змяніць саму тэхналогію вытворчасці паперы. Цяпер яна робіцца не ў кіслым, а ў нейтральна-шчолачным асяроддзі. Новы хімічны састаў дазволіў знізіць вагу паперы і абараніць абсталяванне ад карозіі.

### СПОРТ

■ На першым зімовым чэмпіянаце СССР па тэнісу, які праходзіў у Маскве, вышэйшыя ўзнагароды заваявалі Лейла Месхі з Тбілісі і мінчанін Сяргей Леанюк.

■ Ганаровы прыз — Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў — заваявалі рапірысты мінскага „Дынама“. У фінале турніра, які праходзіў у Парыжы, беларускія спартсмены ва ўпартай барацьбе перамаглі sапернікаў мясцовага клуба „Рэсінг“ — 9:6.

(Працяг са стар. 1)

# Памяць і дружба

ТППР вытрымаў гэты палітычны экзамен. Цяпер у нашым аддзеле налічваецца 65 гурткоў і каля 5 тысяч членаў. Гурткі існуюць на ўсіх прадпрыемствах і ва ўстановах горада, ва ўсіх падставовых і сярэдніх школах. Наш недахоп — гэта тое, што маем толькі тры гурткі на вёсках: у Махнатым, Старым Беразове і Арэшкаве. У бліжэйшы час будзем актывізаваць дзейнасць ТППР у вясковым асяроддзі.



Старшыня гмінна-гарадскога аддзела ТППР у Гайнаўцы М. Охнё.

**Я. М.:** Калі ўжо гаворым аб бягучай дзейнасці, дык будзьце добры расказаць, у чым яна праяўляецца.

**М.О.:** Найважнейшая справа — гэта вечна жывая памяць сярод грамадства Гайнаўшчыны аб тых, якія вызвалялі гэтую зямлю, аб салдатах з чырвонай зоркай на пілотцы, што загінулі тут. Вельмі ўрачыста адзначаюцца такія святы, як Дзень Перамогі, гадавіна вызвалення горада, гадавіна Вялікага Кастрычніка, Дзень Савецкай Арміі і іншыя, звязаныя з гістарычнымі падзеямі. Магіламі нашых вызваліцеляў апякуюцца ўсе гурткі ТППР горада — кожны мае патранат над паасобнай кватэрай. Ускладаюцца жывыя кветкі. У дзень 1 лістапада на могільніку воінаў Савецкай Арміі бывае тысячы наведвальнікаў, якія запальваюць свяшчэнныя агеньчыкі памяці. Па ініцыятыве праўлення аддзела ТППР неўзабаве пачнецца мадэрнізацыя могільніка. Ужо гатовы праект абеліска, аўтарамі яго з'яўляюцца архітэкты Кабац і Маркевіч. У мінулым годзе гасцявалі ў нас маці, сын і жонка лейтэнанта Барыса Мелянеўскага, які загінуў, вызваляючы вёску Ставішчы, што каля Чаромхі. Сустрэчы з сем'ямі нашых вызваліцеляў — гэта ўжо традыцыя ў нас.

**Я.М.:** Цікава, як выглядае супрацоўніцтва вашага таварыства ў Гайнаўцы з Беларускім грамадска-культурным таварыствам?

**М.О.:** Яно нічым не абмежавана і прыносіць вельмі карысныя эфекты. Я сам з'яўляюся намеснікам старшыні грамадскага камітэта пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры ў Польшчы і Музея рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Нашы актывісты: Сяргей Беразавец, Мікалай Клімюк, Міхась Байко, Віктар Бура, Мікалай Бушко і многія іншыя дзеячы БГКТ. Вельмі часта мы арганізуем супольна культурна-асветныя мерапрыемствы. Супрацоўніцтва з БГКТ будзем узбагачаць надалей.

Немагчыма змясціць у адным артыкуле ўсё пра дзейнасць ТППР у Гайнаўцы. Трэба было б напісаць пра многія гурткі, якія актыўна дзейнічаюць на прадпрыемствах і ў школах. Таварыш М. Охнё падкрэсліў багатую і шматгранную дзейнасць ва ўсіх школах, а перш за ўсё ў пачатковай школе нумар 2 імя Героя Савецкага Саюза А. Фларэнкі, дзе апекуном гуртка ТППР з'яўляецца чалавек, адданы ўсёй душой польска-савецкай дружбе, — Пётр Гіншт. На ўсіх большых прадпрыемствах Гайнаўкі ўжо паўстаюць аддзелы ТППР. Кожны год у Гайнаўцы адбываецца раённы конкурс „Савецкая песня“ і іншыя імпрэзы ў плённым супрацоўніцтве з Гайнаўскім домам культуры „Гурнік“. Многія актывісты ТППР з Гайнаўкі ездзяць на экскурсіі ў Савецкі Саюз і пасля такой паездкі адбываюцца ў гуртках сустрэчы з імі, на якіх іншыя члены даведваюцца пра жыццё ў краіне нашых сяброў.

9 мая 1985 года, з нагоды 40-годдзя Перамогі, удзельнікам урачыстага парада на Чырвонай Плошчы ў Маскве быў таварыш Мечыслаў Охнё. Сведчыць гэта аб тым, што Галоўнае праўленне ТППР высока цэніць яго ўклад працы ў развіццё і ўмацаванне дружбы з СССР на Гайнаўшчыне.

**Размаўляў Ян Мордань**
**Фота Яна Герасімюка**

# ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

## ЗНОЎ У ПАДАРОЖЖА



Тут усе, апрача: Сума, Саймона, дзяўчыны з Гарадка, Аліны з Дашоў, Веся, Марка, Баброўскага, „шляхцянкі“ і... фатографа.

Зіма на некалькі месяцаў спыніла арганізаваныя нашымі студэнтамі турыстычныя рэйды. Аднак, як бачым, і яна канчаецца, даючы месца веснавому адраджэнню. Адраджэнне не толькі ў літаральным значэнні гэтага слова: кахання, прыроды, але перш за ўсё — маральнага жыцця народа. Нараз у нашай гісторыі вялікія падзеі супадалі з веснавой парой. Нясмелыя праменні сакавіковага сонца даюць бадзёрасць, як жа патрэбную ў святочныя дні і ў шэрыя будні.

Так і беларускія студэнты, узмоцненыя сакавітымі надзеямі, адправіліся ў пачатку гэтага месяца ў сваё чарговае падарожжа па Беласточчыне. Характэрнай рысай кароценькіх двухдзённых рэйдаў з'яўляецца тое, што з месца, дзе закончыўся папярэдні, распачынаецца новы.




І што вы тут напісалі?

Зноў нашыя турысты апынуліся ў Супраслі. Цяпер яны накіраваліся ў Беласток.

Пра значэнне Супраслі для беларускай культуры, думаю, чытач „Нівы“ сёе-тое ведае, дык не намерваюся разводзіцца шырэй на гэту тэму. Было б невыбачальным грахом, знаходзячыся ў такім старадаўнім беларускім асяродку, не пагутарыць аб ім. Па сутнасці таму з адмысловым дакладам пра Супрасль, яго славуты манастыр а.а. васільянаў і своеасаблівыя „паваротьі“, з тым звязаныя, выступіў Валянцін Сельвясюк, вядомы ўжо нам студэнт гісторыі мастацтва Варшаўскага універсітэта. Шкада толькі, што на другі дзень не давялося нам заглянуць у музей, дзе знаходзіцца макет Благавешчанскай царквы і некаторыя ўцалеўшыя фрэскі з яе. Проста музей быў зачынены, хаця гэта было добрых некалькі хвілін пасля гадзіны адкрыцця. Ну, што ж, перад намі цяжкая вандроўка, дык мы доўга і не чакалі. Нейк і не змаглі поўнасцю налюбавацца родным краявідам, бадай таму, што надвор'е было зусім неадпаведнае, а мокры растаючы пад уздзеяннем сонца снег стаў брудны і шэры.

У Беластоку, у сувязі з „Грамадаўскімі“ гадавінамі, з цікавым дакладам выступіў студэнт гісторыі Варшаўскага універсітэта, не менш вядомы за Сельвесюка, Яўген Вапа. Сутнасць даклада зводзілася да пытання: у якой ступені „Грамада“ была арганізацыяй самастойнай, а ў якой кіравалі ёй камуністы? Несумненна, гаварыў Вапа, была яна арганізацыяй беларускай, кіраўніцтва яе было непасрэдна звязана з КПЗБ і Камінтэрнам. Таксама ў свой час з „Грамадой“ былі звязаны людзі, якія пасля яе разгрому адступіліся і сваю дзейнасць потым перакінулі ў супрацьлеглы ідэалагічна лагер. Юры Сабалеўскі, Фабіян Акінчыц, Антон Луцкевіч і Радаслаў Астроўскі нейкі час супрацоўнічалі з кіраўніцтвам „Грамады“, аб чым некаторыя гісторыкі неахвотна ўспамінаюць, але і гэта трэба ведаць. Пасля дакладаў як у Беластоку, так і ў Супраслі пачалося супольнае спяванне песень. Рэйд закончыўся ў нядзелю 9 сакавіка.

Гледзячы з перспектывы некалькіх ужо рэйдаў, выпадае абмяняцца некаторымі рэфлексіямі, крыху задумацца. Ці гэтага тыпу мерапрыемствы здзяйсняюць поўнасцю пачатковыя намеры іх арганізатараў. Пакуль што цяжка на гэта адказаць аднаначна. Напэўна ёсць многа непаразуменняў, недахопаў, пераважна арганізацыйных. Гэта праўда. Многія з нашых студэнтаў не ведаюць слоў некаторых песень. Пакуль што яшчэ няма спеўніка беларускага студэнта, варта было б найбольш папулярныя песні сабраць прынамсі ў форме машынапісу. Напэўна не адзін чалавек страціць ахвоту далей удзельнічаць у беларускім рэйдзе па тых ці іншых прычынах. Ну, што ж, усім не дагодзіш. Арганізатары: раней — беларускія студэнты Варшаўскага універсітэта, апошнім разам — студэнты беластоцкіх навучальных установаў, — не абмяжоўваюць удзелу ў рэйдзе жорсткімі ўмовамі нацыянальнасці ці ідэйнымі перакананнямі. Прыязджаюць усе тыя, што хочуць.

Але, бясспрэчна, больш ёсць фактаў, якія цешаць. Найважнейшае: штораз больш моладзі горнецца да беларускіх падарожжаў. Калі летам 1984 года ўдалося сабраць жменьку маладых энтузіястаў беларускай турыстыкі, дык апошнім разам рэйд прыцягнуў каля 40 чалавек. Гэта таксама аб чымсьці



Цяпер і шляхта пешшу ходзіць.

сведчыць. Рознага тыпу дакладамі: па гісторыі, мастацтву, літаратуры, культуры ўдзельнікі маюць магчымасць пашыраць агульны абсяг ведаў пра сваю Бацькаўшчыну. А гэтым самым падмацоўваць сваё нацыянальнае пачуццё. Зразумела, што спыніць зусім працэс асіміляцыі ці нацыянальнага нігілізму моладзі не ўдасца, але ўжо не адной загубленай душы рэйды памаглі выбраць правільную дарогу ў жыцці.

Найцяжэйшы пачатак.

Арганізатары, удзельнікі рэйду глыбока ўдзячны пану Юрку Латышонку і ягонай радні за давер, ветлівую і сардэчную гасціну, якой двойчы абдарыў ён беларускіх турыстаў у сваім доміку ў Супраслі. За гэта яму шчырае беларускае дзякуй! Пад падзякай падпісваецца таксама аўтар гэтых радкоў.

**Юрка Ляшчынскі**
— заўсёды прысутны.
**Фота Л. Тарасэвіча**




## ХРОНІКА

7-8 сакавіка

Адбыўся чарговы рэйд „Падарожжа“ — ужо шосты. Траса рэйду вяла з Супраслі ў Беласток. З нагоды Міжнароднага свята жанчын вядучую ролю адыгралі дзяўчаты. Адна з іх давяла вядомага літаратара Сакрата Яновіча да адчайных слоў: „Зааабярыце, радзі Бога ад мяне гэээту дзяўчыну!..“

14 сакавіка

„Прысутнасць“ не была прысутнай на запустах, якія арганізавалі беластоцкія студэнты ў клубе „Гвінт“. З тае прычыны не ведалі, ці былі прысутныя ўсе іншыя, але адно бясспрэчна: з „гвінта“ не пілі.

15 сакавіка

Варшаўскія студэнты эфектна закончылі карнавал моцным акцэнтам у студэнцкім клубе „Акцэнт“. Настаў пост, што абазначае змену гатунку закускі.

14-16 сакавіка

Беларускія студэнты з Варшавы далі падтрымку намаганням праўлення аддзела БГКТ дзеля забеспячэння годнай будучыні, г.зн. здабыцця новага памяшкання на клуб.

22 сакавіка

**У сціплых умовах, у невялічкім інтэрнацкім пакойчыку, у Беластоку адбылася вечарынка, якую можна назваць паэтычнай.**

25 сакавіка

**У гэты дзень выйшаў новы, чацвёрты нумар „Сустрэч“, якія можна набыць толькі за адзіныя 150 зл. у вядомых кальпарцёраў. Раім спяшацца і адначасна віншуем братнюю рэдакцыю.**

ПРЫСУТНАСЦЬ

студэнцкая старонка

Старонку падрыхтавалі: Юрка Ляшчынскі, Мікола Ваўранюк, Валянцін Сельвясюк, Лёнік Тарасэвіч, Яўген Вапа.

У дапамогу настаўнікам

# ПРЫКЛАДНЫ КАНСПЕКТ

**урока беларускай мовы ў 3-ім класе пачатковай школы**

Тэма: Вясна — найпрыгажэйшая пара года.

Дыдактычная мэта: Знаёмім вучняў са з'явамі і зменамі ў прыродзе вясною і слоўнікавым матэрыялам, звязаным з гэтай жа парой года. Удаскакальванне тэхнікі чытання.

Выхаваўчая мэта: Разбуджэнне эстэтычных пачуццяў і пашана прыроды.

Матэрыял да ўрока: Карцінка ў падручніку 3 класа на стар. 184, вершы з падручніка М. Машара „На прадвесні", стар. 185, І. Мураўейка „Вясна", стар 188, і верш В. Шведа „Прадвесне", табліца са слоўнікавым матэрыялам аб вясне, рэбус.

Метад працы: Гутарка з праблемнымі элементамі.

План урока

1. Вучні развязваюць рэбус, яго рашэннем будзе патрэбнае слова.
2. Расказаць аб з'явах, якія дзеці заўважылі ў прыродзе з надыходам вясны.
3. Разглядаюць карцінку „У веснавыя дні" і далей расказваюць аб вясне.
4. Кароценькі перапынак, падчас якога дзеці паказваюць веснавыя з'явы (бусел стаіць на адной назе, ляцяць птушкі).
5. Прачытаць вершы аб вясне (па адной страфе) і расказаць пра апісаныя ў іх з'явы прыроды: а) ціхае чытанне; б) выразнае чытанне; в) выказванні вучняў.
6. Настаўнік знаёміць вучняў са слоўнікавым матэрыялам, змешчаным на табліцы: а) чытанне індывідуальнае і харавое; б) запісванне слоўнікавага матэрыялу ў сшыткі.
7. З дадзеных рассыпаных слоў вучні складаюць і запісваюць у сшыткі сказ: „Любі і шануй прыроду".
8. Хатняе заданне: навучыцца прыгожа чытаць любы верш аб вясне.

Апрацавала
**Анна Шыманская**, школа ў Орлі

# Сеймік маладых гаспадароў

28 лютага ўжо па традыцыі прадпрыемства „Трансмлеч" гасціла дзевяноста маладых гаспадароў з Бельскай гміны. Прыбылі таксама прадстаўнікі ўлад. З дакладам выступіла старшыня ЗСМП Галіна Рэзлер. Дыскусія адбывалася наконт праблем сельскай гаспадаркі. Гаварылася, што мала ёсць сельскагаспадарчых машын, мала будаўнічых матэрыялаў, і пра інш. Шмат увагі звярталася на пытанні культурнага жыцця.

Жывёлагадоўля гэта адна з самых цяжкіх спраў. Яна выклікае мноства праблем, якія не кожнаму гаспадару пад сілу. Таму многія адмаўляюцца ад яе.

Перадавікі ў Бельскай гміне: Пятро Бусловіч з Аўгустова і Ірэна Паўлючук з Зубава.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Рыбалаўскі фестываль песні

9 сакавіка, пасля поўдня, у вясковы дом культуры ў Рыбалах (гміна Заблудаў) пачалі сходзіцца людзі на канцэрт народных артыстаў. Акрамя свайго, рыбалаўскага калектыву, прыехалі Дашы і Райск. Гэты багаты вечар вялі па-беларуску Лідзія Мартынюк і Яланта Кірпіна. Ліда — кіраўнік дома культуры, сардэчнейшы чалавек і адданы дзеяч, заўсёды вельмі прадумана рыхтуе кожную імпрэзу з удзелам свайго калектыву. У сваім уступным слове яна гаварыла:

„Карыстаючыся прысутнасцю на нашай сустрэчы жыхароў іншых вёсак, кіруем да іх заклік, каб за прыкладам Дашоў, Райска і Рыбалаў арганізавалі і яны свае мастацкія калектывы, каб папулярызавалі беларускую песню. Да жыхароў нашай рыбалаўскай вёскі звяртаемся з просьбай: прыходзьце да нас і спявайце разам з намі! Няхай беларуская песня гучыць на ўсю ваколіцу! Няхай беларускае слова і беларуская песня жывуць у кожнай сям'і!"

Затым ад грамадскай рады вясковага дома культуры ў Рыбалах і яго кіраўніцтва яна выказвае шчырую падзяку Валянціне Ляскевіч — нястомнаму дзеячу БГКТ за добрыя парады ў арганізацыі культурнага жыцця ў рыбалаўскім доме культуры.

Столькі Ліда і яе супрацоўнікі ў Рыбалах. А цяпер ад сябе. Назіраем вялікі, дагэтуль небывалы, беларускі уздым. Адной з форм яго і ёсць мастацкі рух, асабліва вакальныя — вялікія і малыя — калектывы. Старая фальклорная песня перажывае адраджэнне. З глыбінь народнай памяці, як Фенікс з папялішчаў, устае яна ва ўсёй сваёй красе і гераічнасці. Спяваюць яе калектывы, так, як і даўным-даўно — поўнымі грудзьмі і поўным голасам, з характэрнымі ласкальнымі сцішэннямі і плаўнымі пералівамі, з занікане перапынкаў паміж строфамі. Нельга быць абыякавым да такога спявання. Здаецца, вось-вось гэтая песня схопіць цябе на свае магутныя крылы і панясе ў зорнае неба і рассыпле твае костачкі і станеш ты толькі пылам, які і тады будзе з прагнасцю лавіць зямное рэха тае песні... Хачу прызнацца — для мяне такая перспектыва вельмі ж заманлівая.

З вядомых мне вакальных калектываў найбольшымі майстрамі такога спявання лічу калектыў з Дашоў. На канцэрце ў Рыбалах гэтыя надта здольныя жанчыны, акрамя песень, прадставілі дзве народныя сцэнкі: „Курачка" і „Усяму вінавата нявестка". Гэтая апошняя суправаджалася багатай вязанкай народных песень.

Аб калектыве з Дашоў, прадстаўляючы іх рыбалаўскай публіцы, Ліда сказала: „Гэта прыгожыя жанчыны і вельмі прыгожа спяваюць ужо дзевяць гадоў. Займаюць добрыя месцы ў конкурсах, маюць многа дыпломаў і ўзнагарод, а ў апошнім часе атрымалі адзнаку „Заслужаны для Беласточчыны".

„Згодныя макі" з Райска — таксама дзевяцігадовы калектыў, здольны і вельмі моцны з акцёрскага боку. Не верыцца, што ніводная са спявачак не закончыла ніякай акцёрскай школы. Яны стылёва інсцэніруюць нават песні, як, напрыклад, „Сярожку", дзе ў адной песні нам накажуць цікавы звычай заляцання хлопца да дзяўчыны, размову-просьбу да маці дзяўчыны, якая найперш не хоча згадзіцца на каханне маладых (калісьці ў народзе патрэбна была згода на гэта), але потым уступае і ўвесь калектыў усё гэта абспеўвае. Вельмі сімпатычна.

Райск сваім майстэрствам наводзіць мне на думку мініаперэту. Яны ўсе свае інсцэніроўкі спяваюць. І так, прадставілі яны жартоўную сцэнку раенскага вяселля, дзе сват быў перавязаны колішнім, вышываным крыжыкамі ў пеўнікі ручніком, і маленькая іконка вісела, і жыццёвыя сітуацыі былі родам з Райска, толькі песні-прыпеўкі спяваліся польскія. Вельмі цікава. Я бачу, што Райску пад сілу будзе ўзяцца і паставіць народны абрад беларускага вяселля. Такім чынам яны зробяць дакументальнае ўзнаўленне аўтэнтычнага народнага абраду, якім ёсць (а можа ўжо толькі было?) у народзе вяселле. А паколькі ў раенскіх „Згодных макаў" выступае схільнасць і здольнасць да жывых, гумарыстычных эстрадных форм, то і для беларускага вяселля можна падабраць адпаведныя вясельныя жартоўныя песні і прыпеўкі. Толькі трэба інструктару БГКТ памагчы падабраць рэпертуар, а ўжо пастаноўку на месцы аформіць з уласцівай сабе лёгкасцю Яўгенія Шумская з усім сваім калектывам і пры выдатнай музычнай дапамозе Пятра Нявінскага.

І засталіся нам з тройцы выступаючых у Рыбалах толькі „Хлопцы-рыбалоўцы". Ад першага разу, калі я пачула тэты калектыў, ён стаў маім любімцам. Ды ці толькі маім? Мае гэты калектыў свой непаўторны каларыт, сваю творчую дарогу



Выступае калектыў з Райска гм. Бельск.



Славутыя „хлопцы-рыбалоўцы“ — мужчынскі хор з Рыбалаў гм. Заблудаў (першае месца ў катэгорыі неапрацаваных фальклорных песень сярод вялікіх калектываў на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня-86“).

і сваю абаяльнасць. Можа таму, што ў ім адны мужчыны, закаханыя ў песню і з добрымі галасамі? Гэты магутны беларускі пажарніцкі калектыў выклікае захапленне, дзе толькі ён не паявіцца. А як заспявае — зямля задрыжыць і сэрца заные.

Мяне захапляе іх мужнасць і дынамізм. І нейкая непарыўная сувязь з гісторыяй народа — яны ўвасабляюць сілу нашых продкаў, якія непахісна стаялі за сваю зямлю і волю. З сівой мінуўшчыны ўваскрашаюць сабою рыбалаўцы воблік беларускага волата, як у той песні-казцы Янкі Купалы „Жыў на свеце Лявон“, якую і хацелася б калісьці пачуць у выкананні гэтага калектыву. Адну страфу з гэтай песні я сёння ім дару ў знак пашаны і падзякі за той вечар у вёсцы:

*Зварухнуўся Лявон,*
*Як вада, як агонь,*
*Пазнаў сілу ў сабе небывалую;*
*Ўжо бяда — не бяда,*
*Ўжо нуда — не нуда, —*
*Запеў песні свае разудалыя.*

Песня гэта не лёгкая, але рыбалаўцы якраз і не падбіраюць лёгкі рэпертуар. Іх праграма сведчыць аб амбіцыі і бясстрашнасці (напрыклад, „Бухенвальдскі звон“, але і мяккая цудоўная калыханка „Месяц над нашаю хатаю свеціць“).

Рыбалы — малады калектыў. Але як выдатна сведчыць ён аб неабмежаваных магчымасцях і таленце нашых людзей! З'яўляецца прыкладам у вялікай справе роднай культуры. Трэба толькі мець адвагу пажарнікаў, каб зноў жа словамі Янкі Купалы сказаць: „І ў агонь, і ў ваду я за ёю пайду“.

Начальнік гміны ў Заблудаве сардэчна дзякаваў Рыбалам, як арганізатару і ўсім прыехаўшым сюды гасцям. Назваў рыбалаўскую імпрэзу вялікім рэгіянальным фестывалем і выказаў шчырае жаданне, каб такія адбываліся ў іншых мясцовасцях гміны. Уважлівы і ўражлівы слухач, ён адразу трапна назваў з'яву, пра якую мы ўжо ў „Ніве“ пісалі, што менавіта такія абмены калектываў і такія з'езды з'яўляюцца сапраўднымі народнымі фестывалямі беларускай песні. Форма такая вельмі распаўсюджваецца цяпер. На некаторых (у Дашах, у Тыневічах Вялікіх) я была асабіста. Пра іншыя пішуць карэспандэнты. Людзям яны вельмі падабаюцца — залы заўсёды бітком набіты, якімі б вялікімі яны не былі. Беларускаму таварыству і беларускаму актыву, усім культурным арганізацыям і дзеячам трэба гэтую форму дзейнасці ў беларускім руху падтрымліваць усімі сіламі. Яна ўзбагачае ўсіх нас.

**Вера Леўчук**
**Фота С. Грынявіцкага**



Спяваюць дзяўчаты з Дашоў гм. Кляшчэлі (другое месца ў катэгорыі апрацаваных фальклорных песень сярод малых калектываў на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня-86“).




## ПАДПІСВАЮСЯ ПАД ГЭТЫМ

Пад артыкулам Пятра Байко, змешчаным у 7 нумары „Нівы“ ад 16 лютага г.г., падпісваюся абедзвюма рукамі.

Аўтар ходзіць па зямлі. Не буду пераказваць змест яго артыкула, хачу дадаць толькі тое, што аўтар не напісаў, але будзе, напэўна, згодны са мною. Па-мойму, ёсць у нас: 1) беларусы як беларусы, 2) беларусы, якія па розных прычынах пішуцца палякамі і ёсць 3) палякі, продкі якіх паланізаваліся. Злучае ўсе гэтыя групы беларуская кроў і свядомасць прыналежнасці да зямлі і народа!

З мовай бывае па-рознаму, асабліва, калі акружае іх іншая мова, якая адыгрывае вялікую ролю ў жыцці дзяржавы і народа. Ці мова — вызначальнік нацыянальнасці? Не. У Беларусь прыязджаюць дзеці з-за мяжы, некаторыя з іх не гавораць па-беларуску, аднак адчуваюць сувязь з зямлёй дзядоў ці бацькоў, адчуваюць сваё беларускае паходжанне. Гэта беларускія дзеці! І гэтак іх прымаюць. Таксама ў Польшчу прыязджаюць палякі, якія не гавораць па-польску, але адчуваюць сябе палякамі. У іх плыве польская кроў продкаў, і для іх гэтая зямля — святасць.

Сярод беларусаў у Польшчы заўважаем зусім іншы погляд. Беларусам лічыцца толькі той, хто па-беларуску гаворыць, хто ім пішацца, у дадатку выключна праваслаўны. Падыход некаторых ультрабеларусаў да сваіх суродзічаў зусім крыўдны. Найбольш крыўдны для тых, якія або па розных прычынах не падаюць афіцыйна сваёй беларускай нацыянальнасці або па веравызнанню каталікі. Лёгка гаварыць аб мове і нацыянальнасці таму, хто дасягнуў у жыцці таго, аб чым іншыя могуць толькі марыць. Аднак напэўна цяжэй таму, хто пачынае свой жыццёвы шлях, ідзе ў шырокі свет і не ведае, што яго чакае.

**Рышард Бутайла**

## У ЛІПІНАХ

Ліпіны — пушчанская вёска каля Гайнаўкі. Пражывае тут 130 асоб. Солтысам з'яўляецца энергічная жанчына **Леакадзія Кашалеўская.** Патрапіла яна мабілізаваць аднавяскоўцаў на рамонт у грамадскім пачыне 2-кіламетровага адрэзка дарогі з Ліпін у Гайнаўку. На дарогу навазілі жужалю і расплянтавалі яго. Жужаль узялі ў гайнаўскай фабрыцы „Хімічнай“. Вазілі ўласнымі трактарамі з прычэпамі, а таксама наймалі трактарыстаў са спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў.

Калі ў студзені было вельмі многа снегу, усе ліпінцы дружна ўзяліся за адгортванне яго. На другі дзень пасля мяцеліцы ўсюды можна было праехаць.

Сёлета жыхары Ліпін распачнуць пабудову клуба-святліцы. Яны загадзя падрыхтавалі будаўнічыя матэрыялы. Да грамадскіх пачынаў мабілізуе сялян таксама радны ГРН з Ліпін **Васіль Панасюк.** (яц)

 

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АЎКЦЫЁН У КРАКАВЕ

У дн. 22-24 красавіка г.г. у зале № 52, што ў гмаху Collegium Novum Ягелонскага універсітэта ў Кракаве (вул. Галэмб'я № 24), адбудзецца кніжны аўкцыён. Ніжэй называем загалоўкі тых кніг, якія, думаем, могуць зацікавіць некаторых нашых чытачоў.

Poz. 67. Bartoszewicz K. — Radziwiłłowie... W-wa—Kraków br.w. s. VII, 320. Cena wywoławcza 2 tys. zł.

Poz. 220 Chmielowski P. — Liberalizm i obskurantyzm na Litwie i Rusi (1815—1823). W-wa 1898. s. 163. C.w. 400 zł.

Poz. 294. Deliere X. — Obraz narodowego kościoła... podług wyznań prawosławnego popa rosyjskiego. Kraków 1862, s. 91. C.w. 400 zł.

Poz. 410 Gawroński-Rawita F. — Żydzi w historii i literaturze ludowej na Rusi. W-wa —Kraków b.r.w.. s. XII. 270, C.w. 800 zł.

Poz. 639 Klaczko J. — Anneksya w dawnej Polsce. (Unia Polski z Litwą). Kraków 1901, s. 94. C.w 800 zł.

Poz. 707. Kossowski A — Blaski i cienie unii kościelnej w Polsce w XVII—XVIII w. w świetle badań archiwalnych. Lublin 1939. s. 75. C.w. 300 zł.

Poz. 735 Kraszewski J. I. — Kunigas — Dzieje Litwy i Krzyżaków w pocz. XIV w. W-wa 1929. s. 250. C.w 800 zł.

Poz. 873. Łopalewski T. — Między Niemnem a Dźwiną. Ziemia wileńska i nowogrodzka. Poznań b.r.w., s. 236. C.w. 10 tys. zł.

Poz. 907. Maliszewski E. — Polacy i polskość na Litwie i Rusi W-wa 1914, s. 30. C.w. 300 zł.

Poz. 996 Najistotniejsze postulaty gospodarcze Ziemi Wileńskiej Wilno 1937, s. 29. C.w. 200 zł

Poz. 1002. Niedziałkowska-Dobaczewska W. — Wilno i Wileńszczyzna w latach 1914—1920. Wilno 1934. s. 64. C.w. 400 zł.

Poz. 1093. Paszkiewicz H. — Jagiellonowie a Moskwa. T. I. Litwa a Moskwa w XIII i XIV wieku. W-wa 1933. s. 454. C.w. 2 tys. zł.

Poz. 1094. Paszkiewicz T. — Polityka ruska Kazimierza Wielkiego. W-wa 1925, s. 2287. C.w 1. tys. zł.

Poz. 1121. Pietkiewicz Cz. — Polesie Rzeczyckie. Materjały etnograficzne. Cz. I. Kultura materjalna. Kraków 1928, s. VI. 319. C.w. 1 tys. zł

Poz. 1319. Semkowicz W. — Mapa historyczna Diecezji Wileńskiej. Lwów 1936, s. 12, c.w. 100 zł.

Poz. 1404. Sorokowicz J. — Polska, a Litwa i Białoruś. W-wa 1919, s. 31. C.w. 300 zł.

Poz. 1435. Starzyński S. — Litwa. Zarys stosunków gospodarczych. B.m.w. 1928, s. 122, mapa, załączniki. C.w. 800 zł.

Poz. 1517. Śliwiński A. — Jan Karol Chodkiewicz Hetman Wielki Litewski... W-wa 1922. s. 171+zał. C.w. 800 zł.

Poz. 1651. Wierzbowski T. — Szkoły parafialne w Polsce i na Litwie za czasów Komisji Edukacji Narodowej 1773—1794. Kraków 1921, s. 244. C.w. 1,5 tys. zł.

Poz. 1728. I zjazd Naukowy poświęcony Ziemiom Wschodnim w Warszawie 20 i 21 IX 1936. Polesie. W-wa. 1938, s. 104. C.w. 500 zł.

Poz. 1784. Znamierowska-Prüfferowa M. — Ości rybackie. Próba klasyfikacji ości północno-wschodniej Polski. Wilno 1939, s. 14 C.w. 200 zł.

У аўкцыёне можна таксама прыняць удзел пісьмова. Заказы трэба накіроўваць па адрасу: Uczelniane Koło Naukowe Miłośników Książki, ul. Grochowska 2, skryt. poczt. 235, 30-956 Kraków 69, з прыпіскай на канверце „Aukcja". У іх падаецца: нумар пазіцыі, прозвішча аўтара кніжкі, яе загаловак і найвялікшая сума грошай, якую заказчык можа заплаціць.

**П. Байко**

(Праця г са стар. 1)

### ЗА МІРНАЕ НЕБА

Насычаныя непакоем з прычыны агрэсіўнасці ЗША ў дзеянні і прапагандзе супроць мірных ініцыятыў СССР і сацыялістычных краін, былі выступленні члена прэзідыума Ваяводскага камітэта ЗСЛ Збігнева Залеўскага і члена прэзідыума Ваяводскага камітэта СД Веслава Дамброўскага, а таксама сакратара ЗБоВіД Здзіслава Навакоўскага.

Пленум закончыўся прыняццём закліку змагання за мір у Міжнародным годзе міру. Вёў пленум старшыня Ваяводскай рады ПРОН прафесар Пётр Борань.

**Міхась Хмялеўскі**

# ЗМАГАННЕ ЗА КРАМУ

Ліст падпісалі амаль усе дарослыя жыхары прыгранічнай вёскі **Вычулкі,** што ў гміне Нурэц-станцыя. Яго важнасць падмацаваў сваёй службовай пячаткай (аж двойчы) солтыс Пётр Базылюк, а сакратар вясковай пярвічнай партыйнай арганізацыі пад сваім, не вельмі ж разборлівым подпісам, паставіў яшчэ рэзалюцыю: **„Сцвярджаю неабходнасць існавання вышэй спомненай крамы ў нашай вёсцы".**

Ліст пачынаўся так:

*„Галоўнаму рэдактару газеты „Ніва"*

*ЗАЯВА*

*Мы, ніжэй падпісаныя жыхары вёскі Вычулкі, гміна і ГС Нурэц-станцыя, звяртаемся да вас з ветлівай просьбаю... у справе захавання ў нашай вёсцы крамы з прадуктовымі і прамысловымі таварамі.*

*Многія гады жыхары нашай вёскі ўпарта дамагаліся ад адпаведных улад, каб яны адкрылі вышэй спомненую краму ў нашай вёсцы. Адзначаем, што больш, чым палова нашай немалой вёскі — гэта людзі ўжо пажылыя, пенсіянеры і рэнтысты, а найбліжэйшая крама знаходзіцца ў вёсцы Клюковічы, каля двух кіламетраў ад нашай вёскі. Пасля доўгіх і карпатлівых намаганняў удалося нам урэшце ў снежні 1984 года абсталяваць краму ў нашай вёсцы.*

*Уявіце тады нашае здзіўленне, калі ў палавіне снежня 1985 года даведаліся мы ад нашай прадаўшчыцы, што праўленне ГСу ў Нурцы-станцыі рашыла ліквідаваць гэтую краму ў канцы 1985 года па прычыне яе, быццам бы, нерэнтоўнасці. У сувязі з гэтым 18 снежня 1985 года дэлегацыя жыхароў ад нашай вёскі адправілася ў праўленне ГСу ў Нурцы-станцыі і старшыні ГСу падала заяву за подпісамі ўсіх нашых жыхароў, з просьбаю захаваць нашу краму ў наступных гадах. Доўга і пакорна прасіла наша дэлегацыя пана старшыню, ён, аднак, астаўся няўмольны і цэлы час апраўдваўся нерэнтоўнасцю нашай крамы...*

*А нам здаецца, што важна не толькі атрымоўваць высокі прыбытак з гандлю, але трэба таксама ўлічваць грамадскае і асабістае дабро ды выгоду ўсіх грамадзян, асабліва людзей старэйшых і змучаных хваробай, для якіх штодзённая вандроўка па два кіламетры туды і назад у краму, што ў суседняй вёсцы, стварае вялікія клопаты...*

*Яшчэ раз ветліва просім і чакаем хуткай і паспяховай інтэрвенцыі..."*

Прызнаюся самакрытычна, што ліст гэты крыху заляжаўся ў нашай рэдакцыі. Найперш студзеньскія і лютаўскія маразы ды завеі адрэзалі гэтую далёкую прыгранічную вёсачку, з якой у Беласток — звыш 100 кіламетраў, ад свету, а пазней і хвароба падрэзала шмат якіх нашых сяброў-журналістаў.

Калі крыху расчысцілі дарогу ад снежных заносаў, паехаў я найперш у Нурэц, а затым дабраўся неяк і ў Вычулкі.

Старшынёю праўлення ГС у Нурцы-станцыі з'яўляецца параўнальна малады і даволі энергічны чалавек — Ян Ляшук. У кабінеце шэфа ён нядаўна, пасля таго, як папярэдняга „прэзаса", Яўгенія Навакоўскага, звольнілі па прычыне нездавальняючых эканамічных эфектаў у дзейнасці падначаленага яму ГСу.

— Не было б цэлай гэтай справы з крамай у Вычулках, — сцвярджае цяперашні старшыня Ян Ляшук, — каб Я. Навакоўскі болей трымаўся эканамічнага рахунку, а менш хацеў быць „добранькі" для жыхароў гэтай вёскі.

А старшыня надзорчай рады нурэцкага ГСу, Генрык Квасік, які раней таксама кіраваў гэтым ГСам, яшчэ дабаўляе, што папярэдні старшыня, значыць, Навакоўскі, не пытаў згоды надзорчай рады, адкрываючы дапаможны пункт продажу ў Вычулках.

— А ці згоды на ліквідацыю гэтага пункта прасіў у вас цяперашні старшыня? — пытаю я ў Г. Квасіка.

— Без такой згоды, — засцерагаецца старшыня Я. Ляшук, — я б не прыняў рашэння аб ліквідацыі крамы ў Вычулках. Гэтае рашэнне адобрылі ўсе мясцовыя ўлады, — і ён падсунуў мне адпаведныя выпіскі з пратаколаў сесіі гміннай рады нарадовай і прэзідыума ГРН, з удзелам сакратара гміннага камітэта партыі Мікалая Падляшчыка і каменданта міліцыі. Аказваецца, што ўсе галасавалі за ліквідацыю крамы ў Вычулках. Чаму?

— Бо яна сама нерэнтоўная — гэта раз, — паясняе старшыня ГСу. — Ды яшчэ паніжае рэнтоўнасць гандлёвага павільёна ў суседніх Клюковічах. Пасля ліквідацыі крамы ў Вычулках, жыхары гэтай вёскі вымушаны будуць рабіць пакупку ў Клюковічах, і тым самым павысіцца тавараабарот у клюковіцкім павільёне.

— А ГС ваш у цэлым — рэнтоўны? — пытаю.

— Так, 1985 год закончылі мы прыбыткам у 5 мільёнаў 320 тысяч злотых.

Рашыў я крыху дакладней прыгледзецца да гэтай рэнтоўнасці-нерэнтоўнасці. Аказваецца, каб вельмі строга прымяняць гэты прынцып, дык на тэрыторыі дзейнасці ГС Нурэц-станцыя неабходна было б зараз жа ліквідаваць аж 13 пунктаў рознічнага продажу тавараў, 13 — на 28 усіх існуючых.

У Вычулках сапраўднай крамы не было. Працаваў год часу дапаможны пункт продажу. Падобныя пункты ёсць яшчэ ў вёсках Саколе і Барысаўшчына. Абодва яны таксама дэфіцытныя.

— Але там да найбліжэйшых крамаў, — бароніцца старшыня, — шмат далей, чымсьці з Вычулак у Клюковічы,




## БЯЗЛІТАСНЫ ЛЁС

Мірону Акоцюку наралі нябрыдкую ўдаву з вёскі Чаромха. Жанчына вярнулася з бежанства без мужа, бо яго, казалі, затаўклі цыганы. Вярнулася яна з сынам, які быў яшчэ замалы, каб заняцца гаспадаркай.

Мірон прыгледзеўся дакладна да ўсяго, што яго чакала з новай жонкай. І прапанова яму спадабалася. Сам лічыў ён сябе яшчэ паўнавартасным мужчынам. Маніла яго зямля, якая аставалася за ўдавою Кавальчуковай. Мірон меркаваў так: у яе адзін сын, значыць, пасагу яму рыхтаваць не прыдзецца. Наадварот, можа яшчэ прыдбаць сабе ў жонкі нейкую пасажную дзеўку, дык іх гаспадарка яшчэ болей разрасцецца...

Аб усіх гэтых падзеях і перажываннях расказваў мне Міронаў сын, Антон, які і сам ужо размяняў дзевяты дзесятак свайго жыцця. Я слухаў, і думаў: „Як далёка адыйшлі мы зараз ад усяго гэтага, што было найважнейшае ў жыцці Мірона Акоцюка, яго сыноў — Антона і Несцера ды ўсіх яго сучаснікаў! Адыйшлі мы далёка ад гэтых спраў не толькі ў часе, не толькі гадамі, але перш за ўсё жыццёвымі пераменамі і разуменнем асноўных вартасцей, якія вызначаюць сэнс чалавечага быту. Для Мірона Акоцюка 50 гадоў таму назад усё зводзілася да зямлі. Яна давала незалежнасць і пачуццё асабістай годнасці.

— Ну і бацька наш ажаніўся, — гаворыць Антон Акоцюк. — Ажаніўся і пераехаў жыць да жонкі ў Чаромху. Пайшоў у прымакі, каб я з братам Несцерам асталіся на ўласнай зямлі ў Рагачах. Ой, як цяжка тады нам жылося! — уздыхае дзядуля Антон. — Бацька пакінуў нам адну авечку і палавіну воза — задок, бо перадок забраў з сабою. І каровы забраў, і абодва кані... Асталіся мы круглымі сіратамі ў пустой хаце. Без маці і без бацькі. Я — няспаўна 19-гадовы юнак, а Несцерка — яшчэ пару годзікаў малодшы...

У голасе дзеда Антона, калі гаворыць ён аб гэтых сваіх перажываннях, яшчэ і цяпер чуўся закіпелы жаль да свайго бацькі, а можа толькі да свайго лёсу, што так бязлітасна з ім абышоўся. Давялося пачынаць усё ад пустога кораня, як тады, калі вярнуліся з бежанства. з Расіі.

Не ведаў ён, што рабіць — ці брацца за гаспадарку, ці зноў ісці ў батракі і памалу нажываць усё неабходнае для самастойнага гаспадарання... Цяпер бы гэтакай праблемы не было.

Тады, аднак, Антон Акоцюк не меў выбару. Яму таксама здавалася, што зямля — найбольшы скарб. Хто мае ўласную



 

 

Еду ўрэшце ў Вычулкі. Сапраўды, ад гандлёвага павільёна ў Клюковічах да канца вёскі Вычулкі — каля 2 кіламетраў. Прыглядаюся да закрытай крамы. Яна на панадворку ў Баранчукоў, у летняй кухні. Антаніна Баранчук прадавала тут тавары. Пасля закрыцця гэтага пункта продажу перавялі яе ў Клюковічы.

— Але я ахвотна вярнулася б назад у сваю краму, — кажа яна. — У мяне малыя дзеці, якіх няма з кім пакінуць. Ну, і людзям выгадней, калі б крама была ў сваёй вёсцы...

На жаль, прынцыпы гаспадарчай рэформы не прызнаюць чалавечых пачуццяў. Усё цяпер супроць жыхароў вёскі Вычулкі, хаця яны ў час існавання гэтай крамы давалі нурэцкаму ГСу па 230-330 тысяч злотых месячнага тавараабароту. Прадаўшчыца мела толькі такую зарплату, якую сама натаргавала, бо яна стаяла на „працэнце". У гэты „працэнт" уваходзіла таксама і плата за памяшканне, за наём якога ГС не плаціў ані залатоўкі.

Адкуль тады браліся гэтыя затраты, якія сталіся смяротным прысудам краме ў Вычулках?

Гэтага толкам дабіцца мне не ўдалося. Выявіў я толькі, што гэтая затрата за пяць месяцаў склала суму 45 тысяч злотых. **Я б сказаў: усяго 45 тысяч злотых!** Што гэта значыць у параўнанні са звыш 5-мільённым прыбыткам у дзейнасці ГСу ў Нурцы-станцыі? І па гэтай прычыне трэба ганяць усіх жыхароў Вычулак за пакупкамі ў суседнюю вёску? Дзіўная логіка. А можа лепш пашукаць іншых крыніц ашчаднасці, каб кампенсаваць гэтую малаістотную затрату?

З сумам на душы вяртаўся я з гэтай паездкі. Надта ж бюракратычна і бяздушна таварышы ў Нурцы ажыццяўляюць зусім правільныя прынцыпы гаспадарчай рэформы. Спадзяюся, што яны разгледзяць нанава сваё рашэнне.

**Віктар Рудчык**

# СВЯТАСЦЬ ХЛЕБА!

Пра хлеб гавораць у нас, што яго не шануюць, на сметнікі кідаюць асушкі. Слова „хлеб", здавалася б, кожнаму добра вядомае і таму падумаў я, што ў энцыклапедыі можа і не быць яго. Але бачу, ёсць, і вопіс, як яго робяць, з якое мукі і з якімі дадаткамі ды ў якой тэмпературы. Рэдактары энцыклапедыі, відаць, людзі не старыя, бо калі б былі яны старымі, то ведалі б яшчэ і пра тое, што, каб больш было таго хлеба, калісьці дадавалі да яго нямала сушанай лебяды, вядома, молатай; таксама — мякіны, сушанай і молатай сасновай кары.

У трыццаць сёмым годзе прыйшло да мяне трое далейшых суседзяў з просьбаю пазычыць ім пуд жыта або мукі, (купіць не было ў іх за што). Час быў пераджніўны, і я сам не меў ані жыта, ані мукі, толькі высеўкі (астаткі ад прасеянай праз рэшата мукі на хлеб). Гэта было проста вотруб'е з мякінаю ды асцюкамі. І за гэтыя высеўкі яны гатовы былі цалаваць мяне ў рукі, але на гэта я не дазволіў.

Хлеб быў святасцю. Ён заўсёды быў накрыты чысцюткаю настольніцаю. Не шанаваць хлеб гэта быў вельмі цяжкі грэх! За еталом дзяліў яго самы старэйшы чалавек у сям'і. Упаўшую на падлогу крышку шукалі, знаходзілі, хрысціліся, як бы просячы ў яе прабачэння за гэткую няўважлівасць... Людзі цанілі хлеб надзвычайна, бо яны мелі яго мала. А без хлеба як жыць жа?

Ад жабракоў не было адбою. Заробкаў жа нідзе і ніякіх. А зямліца слабенька радзіла. Ды і хто яе меў удосталь?!

Сёння ж хлеб шануюць яшчэ тыя толькі, хто яго робіць, арэ і сее, хто пот пралівае ў полі. А такіх усё менш і менш. Нават вясковая моладзь цяперашняя глядзіць на хлеб, бы на нешта звычайнае і, бадай, мала вартае ўвагі... Прападае культ хлеба. А шкада! Раскідаюцца людзі хлебам, хоць ты крычы: „Божа, ты гэта бачыш і не грыміш!" Можна сказаць і ўслед за адным філосафам, за Сенекам: ад дабрабыту людзі страчваюць розум!

Я нікому не зычу голаду, але ўсім кажу: шануйце хлеб наш надзённы, бо без яго няма жыцця!

**К. П.,**
стары гаспадар.

# І ДОЖДЖ, І СНЕГ, І ВЕЦЕР

Няма пагоды кепскай для яго. Сумку на плячо — і ў дарогу. Кожны дзень. Цяжкая праца лістаноша, кожны з нас гэта скажа. А заробкі? Не занадта. Мала плацяць, а каму не трэба грошай? Хто не хоча працаваць лягчэй? Але наракаем, што мала газет на вёску прыходзіць. Лістаношу таксама не хочацца лішні цяжар цягаць. Калі трапіцца патрыёт, тады справа іншая. На жаль, цяпер патрыётаў незанадта.

Лістанош замнога абавязкаў мае. Рэнты амаль кожны дзень насіць. За малако выплаты насіць і то амаль у кожную хату. Яму трэба не толькі лістаношам быць, ён і касір, і банкір, і стражнік. І памыліцца нельга. Памылішся — аддасі са сваёй кішэні. А што з газетамі? Што з „Нівай"? Заахвочваць лістаношаў да распаўсюджвання „Нівы" трэба. Як гэта рабіць? Можа, вярнуцца да даўнейшых метадаў — конкурсы арганізаваць? Узнагароды даваць, хоць і скромныя? Трэба, каб больш „Нівы" ішло ў свет! Гэта вельмі трэба! Хочацца, каб газета наша даходзіла да кожнай беларускай хаты.

**Г. Мароз**

# ЦІХАЯ ЎРАЧЫСТАСЦЬ

**22 сакавіка бягучага года адбылася важная ўрачыстасць збавідоўскага гуртка № 3 у Беластоку. Важная таму, што аж сто адна асоба была ўзнагароджана крыжамі і медалямі за ранейшыя іхнія подзвігі. Ужо даволі старыя людзі атрымалі 2 Партызанскія крыжы, 3 Асвенцімскія крыжы і некалькі медаляў за ўдзел у абароннай вайне 1939 года. Усе астатнія, а іх была вялікая група, атрымалі медалі за барацьбу за ўмацаванне народнай улады. У гэтай групе было многа беларусаў.**

**Зала клуба „Міленіум" была поўная сівенькіх людзей, часта інвалідаў, пенсіянераў.**

**Аж дзіўна, што амаль усе такія ўрачыстасці адбываюцца так ціха, што здаецца, быццам бы наша арганізацыя апынулася ў падполлі. З афіцыйных улад горада быў толькі намеснік старшыні Гарадской рады народовай Ежы Хадакоўскі, які ўручаў узнагароды.**

**Адзіным упрыгожаннем імпрэзы быў кароценькі канцэрт дзіцячага калектыву са школы № 6 пад кіраўніцтвам усім нам вядомага Сцяпана Копы.**

**Учарашнія галасістыя салдаты сталі сёння ціхімі збавідоўцамі.**

**Васіль Петручук**

## Куток практычных ведаў

**■ Каб мяса не сапсавалася, пакладзіце яго ў посуд, пасаліце і абкладзіце ачышчанымі галоўкамі цыбулі.**

**■ Сярэбраныя і іншыя металічныя ўпрыгожанні, якія вельмі цяпер модныя, пакідаюць на адзенні сляды. Каб гэтага не было, упрыгожанні пакрыйце тонкім слоем бясколернага лаку.**

Толькі скнара і лянівы не выпісывае „Нівы"



зямлю, той, хаця галодны, босы і абдзёрты, мог лічыць сябе важным і вартасным чалавекам.

Ды рашыў Антон Акоцюк, асірацелы хлапчук, разам з братам Несцеркам, трымацца гэтай бацькаўскай „васьмушкі".

Неўзабаве падабраў сабе ў жонкі чарнавокую Марысю, у якой было двух моцных і здаровых братоў, ды разам варочалі гэтую бацькоўскую зямлю.

Ажаніўся і брат Несцерка. Пасля яго жаніцьбы жылі яны там жа. Адно ложка стаяла ў адным кутку, а другое, з маладажонамі — за печкай... Доўга так яны не вытрымалі. Давялося невялічкую хатку дзяліць на дзве часткі.

— Я па старшынству, — успамінае дзед Антон, — дык узяў гэтую частку, што з акном ад поўдня. А Несцеру засталася паўночная частка. І зямлю бацькоўскую, гэты „васьмак", мы таксама падзялілі. Толькі аралі адной кабылкаю, бо другога каня не было за што купляць...

— А цяпер — дзе ваш брат Несцер? — пацікавіўся я, каб ужо спыніць гэты даўгаваты расказ дзеда Антона пра яго бязлітасны лёс.

— Зараз пасля вайны ён выехаў у СССР, — паясняе ён. — Лясныя банды яго напалохалі, каб у „рай" уцякаў, калі хоча ў жывых астацца. Цяпер, калі мы часам сустракаемся, і пачнем успамінаць гэты час, дык наш Несцер проста з падзякай гаворыць аб сваіх даўнейшых крыўдзіцелях. Кажа, што ён са сваёй сям'ёй сапраўды дачакаліся раю на зямлі. Спачатку жылося ім вельмі цяжка. Але з часам, — маўляў, усё ўладкавалася, дзеці выраслі і павучыліся, і цяпер заніштo не хацеў бы ён вяртацца на бацькоўскую зямлю...

Дзед Антон яшчэ шмат чаго гаварыў пра сваё сялянскае жыццё ў даваеннай Польшчы. Нам, аднак, хопіць ведаць, што яго сямейка амаль кожны год павялічвалася ўсё новымі дзецьмі. Як кажуць, што год, то і прыплод. Разам іх адзінаццаць было, з чаго дзевяцерых асталося ў жывых.

— Маем ужо ўнукаў і праўнукаў! — з гордасцю заяўляе бабуля Марыя.

Мне здалося, што Антон Акоцюк дастаткова дакладна расказаў пра жыццё сялян ды іх бяду ў даваеннай Польшчы. А кожная бяда, як вядома, заўжды выклікае гнеў і бунт. Дык пацікавіўся я, як у Рагачах і ў навакольных вёсках нараджалася сялянская барацьба за лепшую долю.

— Калі праўду вам сказаць, — гаварыў мне Антон Акоцюк, — дык я асабіста да ніякай партыі не належаў. Грахом было б прыпісваць сабе чужыя заслугі. Але я добра ведаў, хто ў нас па дарогах раскідваў камуністычныя лістоўкі, хто іх пакідаў пад царквою напярэдадні вялікіх гадавых фэстаў, хто чырвоныя сцягі і лозунгі з антыўрадавымі надпісамі вывешваў на высокіх дрэвах. Вось гэтакі, для прыкладу, Валодзька Вішанка з Мікуліч або Кандратаў Іван з Мядзвежыкаў, ці Бартнічук Мікалай, сын рагачоўскага пастуха, Сцяпана...

Пры гэтым прозвішчы мая ўвага да слоў дзеда Антона асабліва завастрылася. Пра нейкага Мікалая Сцяпанавіча Бартнічука з вёскі Рагачы гаварыў мне яшчэ ў Брэсце Дзмітры Макараў. Гаварыў, што гэтага Бартнічука назначыў ён сакратаром Антыфашысцкага падпольнага раённага камітэта Кляшчэлеўскага раёна.

Пацікавіўся я партызанскай дзейнасцю ў наваколлі Рагачоў. І зноў я тут у першую чаргу пачуў прозвішча Мікалая Бартнічука. Прыдзецца, — падумаў я, — болей дакладна заняцца гэтым следам змагання нашага народа, але пра гэта раскажу ўжо наступным разам.

**Віктар Рудчык**



 

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**Віктар Швед**

## СУМЛЕННЕ

Мне птушка помніцца
на плоце,
Што мела жоўценькі жывоцік.
А я, гарэзлівы хлапчына,
У гэту птушку
кіем кінуў,
Думаў, што толькі
напужаю,
Яна ж упала, нежывая...

І доўга мёртвую ўжо
птушку
Я на сваёй далоні
гушкаў,
Нябогу паліваў вадою
І ўласнай горкаю слязою.

На жаль, усе мае турботы
Не ажывілі птушкі з плоту.
Мне ледзь тады хапіла сілы
Каб птушцы выкапаць
магілу.
Да сёння помніцца здарэнне,
Мучыць з дзіцячых год
сумленне.

## ТАТА ВІНАВАТЫ

Пытаецца настаўнік Васю:
— Што сталася, хто вінаваты,
Выдатнік у чацвёртым класе,
Ды раптам двоечнік у пятым?

Вася на гэта: — Буду шчыры
І выяўлю, хто вінаваты.
Класаў дык усяго чатыры
Скончыў, на жаль, мой добры
тата.



**Удзельніцы дэкламатарскага конкурсу са школы ў Дубінах Бася Гінтт і Дарота Гінтт. Рыхтавала іх да конкурсу настаўніца Вольга Гарустовіч.** **Фота Я. Чэрнякевіч.**

## ЯК ПА ЯГАДКІ СЯСТРЫЧКІ ХАДЗІЛІ

**БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА**

Жыў дзедка з бабкаю. Была ў іх дачушка.

Бабка памерла, дзедка жаніўся. Узяў сабе жонку, у той былі дзве дачкі.

Прыйшла вясна, стала ўсё расці, параслі ў лесе ягадкі. Дзедка паплёў кошыкі дзяўчаткам, і яны пайшлі ў лес па ягадкі.

Дзедкава дачушка хутка збірала ягадкі: да абеда ў яе быў амаль поўны кошык. Бабчыны дачушкі марудна збіралі. Яны адышліся ўбок і гавораць:

— Давай мы яе зарэжам, а ягадкі падзелім і пойдзем дадому.

— Давай будзем нібы часаць ёй галоўку.

Яны і гавораць ёй:

— Ідзі сюды, мы цябе пачэшам.

Пачалі яны яе часаць, яна і заснула. Зарэзалі яны яе, пад кусцікам пахавалі, карынкаю вочкі накрылі, а самі ягадкі падзялілі і пайшлі дадому з поўнымі кошыкамі.

Прыходзяць дадому. Маці ўжо рада, што яе дочкі прыйшлі, ягадкі назбіралі.

— А дзе ж дзедкава дачушка? — пытаецца яна.

— А яна там яшчэ засталася, у яе няпоўны кошык. Яна дазбірвае кошык.

І дзедка пытае:

— Дзе мая дачушка?

— Кошык дазбірвае ваша дачушка. Яна яшчэ поўнага кошыка не назбірала.

Той дзедка ўжо чакае, на вуліцу выходзіць, у канец вёскі глядзіць і пройдзе — ніяк не дачакаецца ён яе.

Стала цямнець, і сцямнела — няма дачушкі. Гукаў ён, гукаў, хадзіў па лесе і па полі, гукаў, думаў, мо выйшла на якое поле, заблудзілася — няма дачушкі.

Той дарогаю ехалі купцы на базар, якраз субота была, а яны ехалі ўжо нанач на нядзелю на базар. Адзін купец злез з воза, гаворыць:

— Вось там расце нейкая трысціна, я пайду яе выражу і зраблю дудачку.

Зрабіў ён дудачку, сеў на воз і зайграў. Дудачка грае:

Грай, грай, мой купчык,
Грай, грай, мой галубчык,
Былі ў мяне дзве сястрыцы,
Ды тыя няродныя.
Узялі мяне зарэзалі,
Пад кусцікам пахавалі,
Карынкаю вочкі накрылі.

О! Той купец прыслухаўся — вымаўляе дудка словы. Яшчэ ён пайграў раз, другі раз. Ну, ехалі яны і якраз у тую вёску прыехалі.

— Трэба, — гавораць яны, — на начлег дзе-небудзь застацца. Ужо і базар недалёка. Заедзем, пераначуем тут у вёсцы.

Якраз яны прыехалі к таму дзедку, начаваць просяцца. Селі за стол, павячэралі. Вось яны ўжо сядзелі, гаварылі. Пасля дастаў дудачку адзін купец. Зайграў, а тая дудка зайграла зноў:

**(Працяг на стар. 10)**

Прынеслі мы з Ягоркам будзільнік дадому і паставілі на камоду. Я ўсё прыслухоўваўся: а што калі раптам стане? Не. добра, роўна тыкае! На душы ў мяне свята.

— Як ты думаеш, — кажа Ягорка, і трошкі памаўчаўшы, пытаецца: — Дзе мы возьмем грошы, каб аддаць бабулі?

У Ягоркі была брыдкая звычка псаваць людзям настрой. Вось і цяпер ад гэтага яго пытання з мяне ўся радасць вылецела.

Сказаць па праўдзе, пытанне гэтае мяне як стукнула: я разгубіўся. Дома не возьмеш. Пачнуць распытваць: навошта? А лгаць не хацелася. Адзін выхад — зарабіць. Але на гэта патрэбны час.

І раптам Ягорку прыйшла ў галаву проста геніяльная думка.

— Ведаеш! — крыкнуў ён. — Давай бабулі Тэклі зробім пакуль хоць што-небудзь. Каб не непакоілася.

— Цудоўная думка! — падскочыў я. — Ты ведаеш, ёй нядаўна прывезлі дровы. Што ж, мы не зможам распілаваць ёй іх і пакалоць? Вядома, зможам!

Так і дагаварыліся.

Жыла бабуля Тэкля адна, у яе нікога не было. Быў калісьці сын, у вайну загінуў. Як яна там упраўлялася з хатнімі справамі — ніхто не ведаў.

На наступны дзень прыйшлі мы да яе. Трошкі пасядзелі, пагаварылі аб тым, аб сім, а потым Ягорка і кажа:

— Учора мы пазычылі ў вас сто злотых. Мы, вядома, іх вам аддамо. Але каб вы... разумееце... каб вы...

— Не непакойцеся, — дапамог я Ягорку.

**Алег Буцень**

## БУДЗІЛЬНІК

**Пачатак у папярэднім нумары**

— ...не. баяліся, — працягваў Ягорка, — мы хочам вам дровы папілаваць.

— Што вы, хлопчыкі! — замахала рукамі бабуля. — Пра грошы я спакойная. Аддасце потым. А з дровамі не варта займацца. Я папрашу каго-небудзь з дарослых.

— А ці ж мы не зможам? Не ўмеем пілаваць?

— Вы думаеце, у нас сілы няма?

Доўга мы яе ўгаворвалі, аж нарэшце ўгаварылі.

Пазычылі ў суседзяў казлы, пілу і ўзяліся за работу.

Працавалі гадзіны дзве — пот з нас ліўся градам, рукі баляць, змучыліся. І, як бывае ў такіх выпадках, заспрачаліся: я кажу, што Ягорка пілу ўбок крывіць, а ён крычыць на мяне, што я не цягну, так як трэба. Урэшце, вырашылі адпачыць да заўтра. А раніцай зноў прыйшлі. Цяжка было спачатку — усе мышцы баляць, а потым разварушыліся, праца пайшла складна. І на сэрцы неяк весялей зрабілася.

Зайшла да нас у хлеўчык бабуля. Глянула на перапілаваныя круглякі і давай вохкаць:

— Ну хопіць з вас, даражэнькія мае! Хопіць!

А мы з Ягоркам яшчэ мацней на пілу ціснем — набраліся спрыту пілаваць. Жых-жых, жых-жых — толькі пілавінне ляціць у бакі. Шкада нам было бабулю — старэнькая яна, няма каму ёй памагчы.

Дзён за пяць папілавалі мы ёй дровы і пакалолі. Ну і цешылася ж бабуля — мабыць, не менш за нас. Чаем з варэннем нас частавала.

Ну, вось здаецца, і ўсё пра будзільнік. Цяпер мы штодзень да бабулі Тэклі заходзім: то крэсла падклеім, то кантакт новы ўставім, то ў краму збегаем.

А сто злотых ад нас яна так і не ўзяла.

# ЗЯРНЯТКІ

**ПАДРУЧНІК РОДНАЙ МОВЫ ДЛЯ ТРЭЦЯГА КЛАСА**
**Аўтары Лідзія Гайдук — Мікалай Гайдук**

### НАПРАДВЕСНІ

Сонца ўстала рана, рана...
Промні пырснулі на шыбы.
Вецер дзьмухнуў над парканам
І схаваўся за сялібы.

Па лагчынах і задворках
Снег ляжыць яшчэ, не тае,
Але ўжо відаць на ўзгорках
Латы чорныя праталін.

І густы сасняк спрасоння
Зашаптаў вясёла ўранні,
Што прышло прадвесне сёння
І вясна не за гарамі.

Міхась Машара

*1. Якія прыкметы надыходу вясны вы заўважылі:*
а. у надвор'і, б. у полі, в. у садзе, г. у паводзінах свойскай жывёлы і птаства, д. каля будынкаў, дз. на вуліцы.

*Запішыце.*

*2. Прачытайце. Чым заканчваецца кожны сказ на пісьме, а чым падчас чытання?*

### ШПАКІ

Наступіла вясна. Прыляцелі шпакі. Яны занялі ўсе шпакоўні. Увесь дзень чуваць іх вясёлыя спевы. Дзецям уцеха і радасць. Кожны з цікаўнасцю сочыць за птушкамі ля сваіх шпакоўняў.

**3.** *Прачытайце. Скажыце, колькі слоў у кожным сказе?*

**Зіма. Снягі. Мароз. Завеі.**
**Дарога звонкая, як сталь.**
**Бярозы ў шэрані сівеюць.**
**Палі бялеюць, як паркаль.**
**Сказ выражае закончаную думку. Вясна. Растае снег.** Птушкі хутка вернуцца з выраю.

*4. Прачытайце. Падзяліце на сказы. Пры спісванні не забудзьце пра кропку ў канцы кожнага сказа і пра вялікую літару на пачатку сказаў.*

### УРОК МАТЭМАТЫКІ

Учора ў нас быў урок матэматыкі настаўніца дала нам заданне у ім гаварылася пра збожжа было ў ім дадаванне і адыманне, множанне і дзяленне Ілья першы рашыў правільна ён растлумачыў рашэнне.

### МНОЖАННЕ ПА-БЕЛАРУСКУ

Чатыры ў сем — дваццаць восем. Чатырма сем — дваццаць восем. Шэсць у сем — сорак два. Шасцьма сем — сорак два. Сем у дзевяць — шэсцьдзесят тры. Сяма дзевяць — шэсцьдзесят тры.

*5. Складзіце са слоў сказы. Спішыце. Памятайце пра кропкі і вялікія літары. Прыдумайце загаловак.*

**пагодная, цiхая, раніца, і, настала,**
**што, толькі, ўзышло, сонейка**
**яшчэ, снег, узгоркі, полі, у**
**дзе-нідзе, узгоркі, толькі, чарнеюць**
**за, лужына, зацягнула, лядком, ноч**
**вясну, але, ужо, чуваць, усюды**
**звініць, у, жаваранак, паветры**
**шпакі, а, дрэве, на, сядзяць**
**з, іншыя, выраю, птушкі, і, прыляцяць, хутка.**

## РОБІМ САМІ ЦАЦКІ

### СКРЫНАЧКА

*Вядома, што кожны з вас мае шмат малых прадметаў, патрэбных дробязяў. На іх патрэбна скрыначка, у якой можна было б трымаць сваё „багацце".*

*Давайце зробім папяровую скрыначку.*

*Бярэм прамавугольны лісток моцнай, гладкай паперы (можа быць лісток каляровага часопіса). Размер лістка залежыць ад патрэбнай велічыні скрыначкі. Лісток дзелім упоперак на тры роўныя часткі (мал. 1). Складаем адну да сярэдзіны і заламваем яе пасярэдзіне (мал. 2). Вуглы зложанай часткі складваем да сярэдняй лініі (мал. 3). Цяпер складваем гэту частку напалавіну заложанымі вугламі ў сярэдзіну (мал. 4). Тады складваем з другога боку 1/3 частку на сярэдзіну і заламваем напалавіну (мал. 5). Да сярэдняй лініі таксама складваем вуглы (мал. 6) і складваем напалавіну гэтую частку так, каб складзеныя вуглы былі ў сярэдзіне (мал. 7). Зводзім уверх з сярэдзіны зложаныя бакі і фармуем скрыначку. Грані скрыначкі зацiскаем дакладна пальцамі, каб атрымаць роўную форму скрыначкі (мал. 8).*










*Калі з такога самага другога лістка паперы зрабіць яшчэ адну скрыначку, дык можна іх злажыць разам і будзем мець скрыначку, якая будзе закрывацца.*

Ваня Майстар

### ВУЧЫЦЦА НА ПЯЦЁРКІ

Яшчэ ў першым класе Косцік вырашыў вучыцца на пяцёркі. Многія прымаюць такое рашэнне, ды не ўсім удаецца стаць выдатнікам. Ад „вырашыў" да „стаў" — шлях няпросты. І складаецца ён з часам непрыкметных крочкаў. Непрыкметных але вельмі важных.

— Косцік, хадзі гуляць! — клічуць сябры.

— Вы ідзіце, а я даганю!

Урокі Косцік даўно ўжо зрабіў, але вось прачытаў урывак аднаго твора з падручніка, потым узяў кніжку гэтага аўтара... Пасля ўжо, падвечар, сабраліся ў двары вакол Косціка хлопцы, слухаюць яго „вольны пераказ" і здзіўляюцца: чаму ў падручнік не ўключылі такую цікавую гісторыю.

Ні разу за пяць школьных гадоў не адступіўся Косцік ад свайго рашэння. Усе пяць гадоў — круглы выдатнік. І за кожнай пяцёркай — праца, упартасць. Ён нават свой почырк змог выправіць. З почыркам Косціку не пашанцавала. Быў выпадак, калі настаўнік звярнуў Косціку кантрольную — нельга было прачытаць. І тады Косцік пачаў разлінsocвываць сшытак і змяшчаць паміж вузенькімі лінеечкамі свае размашыстыя літары. І „безнадзейная" справа, як гаварылі, зрушылася. Таму што чалавек не проста вырашыў вучыцца пісаць прыгожа, але і выканаў сваю пастанову.

— Вось гэта работа! — з пашанай сказаў сусед-першакласнік, калі ўбачыў новы почырк Косціка. І Косцік пачуў сябе магутным чалавекам, які ўсё можа. Можа памагчы не толькі сабе, але і іншым.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

У дырэктара школы спыталі:
— У вашай школе заўсёды так холадна?
— Ды не, толькі зімой.
— А чаму ў вас у класах так цёмна?
— Дык наша ж школа вячэрняя.

* * *

Лекар пытаецца ў Васілька:
— На што скардзішся?
— На матэматыку, — адказвае той.

* * *

— Навошта ты сказаў усяму класу, што я хітры? абураецца Міколка.
— Прабач, — апраўдваецца Алесь, — я ж не ведаў, што ты хочаш трымаць гэта ў таямніцы...

* * *

Міхась старанна капае зямлю ў садзе.
— Што ты робіш? — пытае ў яго бабулька.
— Настаўнік алгебры даў заданне знайсці квадратны корань. Вось я і шукаю!

* * *

— Іду я аднойчы зімою па лесе. Бачу — воўк! Ледзь паспеў схавацца ў пшаніцы, што расла побач з лесам.
— Зімой у пшаніцы?! — здзівіліся аднакласнікі.
—Не чапляйцеся! Я не паспеў добра разгледзець, — крыўдуе Янка. — Можа, гэта было жыта?

**Прыслаў настаўнік**
**Пятрусь Капчык з г. Ізяслава.**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 347340, г. Волгодонск, Ростовской обл., ул. Октябрьское шоссе 5, кв. 383. Брайченко Елене. 6 клас.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл. г. Шахты, ул. Волошина, 13, кв. 7. Зубкова Ирина. 8 клас.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Волошина, 14, кв. 2. Рудченко Гале. 5 клас.

* * *

СССР, 346513, Ростовская обл., г. Шахты, ул. 50-летия ВЛКСМ, 17, кв. 19. Ширяева Таня. 7 клас.

* * *

СССР, 340036, г. Донецк, ул. Володи Горячего, д. 12, кв. 4. Филатовой Лене.

* * *

СССР, Ставропольский край, Железноводский район, пос. Иноземцево 1, ул. 8 Марта, 74. Борисенко Лене. 14 год.

* * *

СССР, 163061, г. Архангельск, проспект Новгородский, 164, кв. 74. Четверикову Валере, 7 клас.

* * *

СССР, 347600, Ростовская обл., г. Сальск, ул. Бородина, 46, Иванисова Ирина. 8 клас.

* * *

СССР, г. Ростов-на-Дону-10, пр. Ворошиловский, 91/1, кв. 49. Буханцевой Татьяне. 15 год.

* * *

СССР, 346515, Ростовская обл., г. Шахты-15, ул. Филипчукова, 4. Рева Алексей. 6 клас.

**(Працяг са стар. 9)**

### ЯК ПА ЯГАДКІ СЯСТРЫЧКІ ХАДЗІЛІ

Грай, грай, мой купчык,
Грай, грай, мой галубчык,
Былі ў мяне дзве сястрыцы,
Ды тыя народныя.
Узялі мяне зарэзалі,
Пад кусцікам пахавалі,
Карынкаю вочкі прыкрылі.

Той дзедка слухаў, слухаў.
— Дай жа ж я пайграю на гэтай дудачцы, — кажа дзед да купца. Купец даў дзедку. Дудка зайграла:

Грай, грай, мой татачка,
Грай, грай, мой родненькі,
Былі ў мяне дзве сястрыцы,
Ды тыя народныя.
Узялі мяне зарэзалі,
Пад кусцікам пахавалі,
Карынкаю вочкі накрылі.

Раз дзедка прайграў ды бачыць, што гэта ж яго дачушка праз тую дудку спявае гэтак. Узяў ён дудачку тую на калена і пераламаў.

І перад ім стала яго дачка. А гэту бабку і бабчыных дачушак ён адлупцаваў ды з хаты павыкідаў.

І сёння са сваёй дачушкаю жыве і хлеб жуе.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



**Знайдзі чалавечка, які намаляваны ў рамачцы, на агульным малюнку.**



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-959 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

З чаго смяюцца суседзі

## „ПАКРЫТЫКАВАЎ"

Хведар Міхаловіч слухаў свайго начальніка Уладзіміра Чыжэвіча. Той апавядаў, як працуе іхняе будаўнічае ўпраўленне, як выконваюцца планы. Для Хведара Міхаловіча гэтыя „байкі" былі ўсё адно, што агонь пад каструляй з булёнам. Ён паволі закіпаў. А Уладзімір Чыжэвіч між тым гаварыў:

— У бягучым годзе план мы перавыканаем. Наша ўпраўленне ўжо пабудавала і здало пяць пяціпавярховых будынкаў для раённага цэнтра.

Гэтага Хведар Міхаловіч вытрымаць не змог.

— Ведаю я, як мы іх здалі! — грымнуў ён на начальніка. — Хто цягаў жалезабетонныя канструкцыі да сябе на дачу? Не ведаеш? Хто прымушаў блокі з'ядноўваць абы-як, каб план не згараў? Зараз у пакоях вецер гуляе. А дождж заплывае як да сябе дадому. А як мы сцены абклейвалі? А як насцілалі паркет?! Вярблюда пераплюнулі. Той двухгорбы, а наш паркет — шматгорбы!

Хведара Міхаловіча несла: нарэшце ўсё начальніку скажу! Няхай не думае, што ўсе пужлівыя.

А куды вадзілі прыёмную камісію пасля прыёму будынкаў? Не ведаеш? Усё ведаеш!

Хведар Міхаловіч болей не мог бачыць свайго начальніка. Ён рашуча падышоў да тэлевізара. Шчоўкнуў выключальнік. Начальнік знік і змоўк.

Пятрусь Капчык



— Будзь сябрам, не ганьбуй мяне перад нарачонай: упадзі ў першым раўндзе.

## НІЎКА



### НУ І НУ!

— Ніколі больш я не пайду з мужам лавіць рыбу!

— А што здарылася?

— Спачатку я, аказваецца, галасна размаўляла, затым начапіла не тую прынаду, потым зарана падсекла...

— Ну, а далей?

— Скончылася зусім дрэнна: я налавіла рыбы больш, чым ён.

### ПАДАЗРОНА

— Ты часам не захварэў? — пытае жонка ў мужа.

— А чаго ты так устрывожылася?

— Бо сёння ты прыйшоў дадому цвярозы.

### НЕ АДГАДАЎ

— Андрэйка, чаму ты такі замурзаны? — пытае дзядзька. — Я нават магу адгадаць, што ты еў сёння!

— Адгадайце!

— Ячню.

— Вось і не адгадалі. Ячню я яшчэ ўчора еў.

### ПАЧАСТАВАЎ

— Кум, есцімеце мёд?

— Што?

— Не хочаце? Ну, глядзіце!

### У ТАКСІ

— Паслухайце, — гаворыць пасажыр, — вам не здаецца, што трэба ачысціць пярэдняе шкло, яно ўсё запырскана граззю.

— Няважна, — адказвае вадзіцель. — Я ўсё роўна забыў дома акуляры.

Ці думае чалавек, калі ён гаворыць, што думае?

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Брыгадзір трактарнай брыгады хацеў праверыць, колькі людзей выходзіць на работу з пахмелля. Пры ўваходзе ў будынак механізатараў паставіў ён вядро з вадою і загадаў свайму памочніку сачыць, хто і колькі разоў падыходзіў піць ваду...

У канцы дня пытае:

— Ну, хто падыходзіў піць ваду?

— Дык вось вы падыходзілі тройчы ды я адзін раз, а больш нікога не бачыў.

☆

Прачытаўшы ў газеце аб'яву маладога чалавека, які жадаў прыдбаць спадарожніцу жыцця, фрокен Эльза паслала яму ліст:

„Я з задавальненнем сустрэнуся з вамі ў гэту нядзелю ў дзве гадзіны дня. Каб я магла вас пазнаць, вы павінны трымаць на правай руцэ футэрка 46-га памеру".

### МІНІВЕРШЫ

**КРУМКАЧ**

Смяяўся з салаўя крумкач:
— Які з цябе спявак, смаркач!
Цырыкаеш сабе пад нос.
Як той камарык-крывасос.
Вось я як каркну
ў мікрафон —
Паразганяю ўсіх варон.

Міхась Скрыпка

З „Весніка Задрыпоніі"

### НАВІНЫ НАВУКІ

Апошнія навуковыя распрацоўкі спецыялістаў Інстытута сацыялогіі г. Жмуркава паказваюць, што шлюбная разводная статыстыка не павінна выклікаць асаблівага песімізму. Вучоныя ўстанавілі, што як бы не павялічвалася колькасць разводаў, яна ніколі не перавысіць колькасці шлюбаў.

### АДКРЫЦЦЁ ДАЦЭНТОВІЧА

Нягледзячы на эмансіпацыю, нашы жонкі ўсё яшчэ разумнейшыя за нас.



Без слоў.



## Курёзы

### З ТАГО СВЕТУ

Эдвін Эдвардс, 55-гадовы губернатар штата Луізіяна (ЗША), мае рэпутацыю першага на ўвесь штат карцёжніка і бабніка (адносна хабараў, дык у штаце ёсць спрытнейшыя ад свайго губернатара).

Дык вось гэты губернатар выхваляецца, што ўжо шэсць разоў выходзіў сухім з вады падчас судовага расследавання яго шматграннай дзейнасці.

Дайшлі весткі, што з'явілася надзея, нібы Эдвардса ўсё-такі ўдасца засадзіць. Юрысты нават падлічылі, што за ўсе свае ўчынкі ён меў бы атрымаць 265 гадоў турмы.

Не бярэмся гадаць, ці дойшло да таго суда, ці яшчэ толькі дойдзе, і чым ён закончыўся ці яшчэ толькі чымсьці закончыцца. Нас цікавіць іншае пытанне: калі б Эдвардса засудзілі, дык хто ж тады будзе кіраваць штатам Луізіяна?! Дык жа віцэ-губернатар Бобі Фрымен таксама меў стаць перад судом — за хабарніцтва.

### МІЖ НАМІ

Не ў грошах шчасце але як хочацца пераканацца ў гэтым на ўласным вопыце!